www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 64 (4213)

15 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:
*– Беларускай нацыянальнай ідэяй можа быць толькі пабудова нацыянальнай дзяржавы з нацыянальнай мовай.*
***(З выступлення падчас сустрэчы з гамяльчанамі 12 жніўня.)***

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Шерочка с машерочкой

Либерально-демократическая партия Беларуси объявила, что ее кандидатом на предстоящих президентских выборах будет Олег Гайдукевич. Гайдукевич-папа, как известно, несколько раз «ходил» в президенты только для того, чтобы в итоге сообщить, что нет кандидата лучше Александра Лукашенко. Теперь настала очередь Гайдукевича-сына.

По-настоящему демократических выборов в Беларуси нет, партия Гайдукевичей палец о палец не ударила, чтобы они были, но право считаться кандидатом в президенты отец сыну передает, будто фамильное серебро. В чем прикол? Почему президентские выборы для всей страны – это проблема, это даже опасно, а для Гайдукевичей – словно медом намазано?

Политологи в этой связи могут рассказать про разработанную в конце XX века концепцию управляемой, имитационной, манипулируемой, декоративной демократии, квазидемократии, псевдодемократии, которая в Беларуси имеет свои особенности, но в общем и целом ничем особо выдающимся не отличается. Обязательный элемент таких систем – говорящие болванчики: партии, политики, журналисты, общественные деятели, эксперты, которые и вещают правильно с точки зрения правящего режима, и замолкают вовремя. Политическая система строится так, чтобы внешние признаки демократии: выборы, парламент, партии, СМИ – наличествовали, но работали только в интересах правящей элиты, ради сохранения режима. Вот, собственно, и вся суть.

Политологам в этом смысле есть что проиллюстрировать на примере ЛДПБ и бессменного лидера партии Сергея Гайдукевича; есть что рассказать про то, почему Гайдукевича-старшего на этот раз в президентской гонке решили заменить на Гайдукевича-младшего. Но если без болтологии, то происходящее объясняет совершенно не политологический термин – бесстыдство.

У нас ведь, говоря метафорически, не только ЛДПБ говорящим болванчиком служит. В нужное время в нужном месте исправно отрабатывают свой номер с десяток псевдополитических и псевдонезависимых организаций. Строго по команде подают голос, имитируют конкуренцию на выборах, кивают в нужных местах, в нужный момент возмущаются. Но при этом знают свое место и ни на что особо не претендуют.

Вы когда-нибудь слышали председателя Республиканской социально-спортивной партии Владимира Александровича? И я нет.

Вам о чем-нибудь говорит имя Василий Заднепряный? Между тем это председатель Республиканской партии труда и справедливости, но я тоже не вспомнила бы это имя без помощи интернета.

И таких фамилий, которые создают политическую массовку, на самом деле немало. Сидят тихо, знают свое место, и только когда Центризбиркому надо отчитаться, что избирательные комиссии на 50–60–70 процентов сформированы из представителей политических партий и общественных организаций, выясняется, что они есть.

Ту же миссию имитации политической жизни выполняет и ЛДПБ. Только в отличие от остальных Гайдукевичам не можется сидеть тихо. Им хочется публичности и славы. Причем славы политических борцов. Свою хитрованскую партию они презентуют как конструктивно-оппозиционную, а себя – как оппозиционеров.

Какое бесстыдство!

Они не занимаются политикой. Они просто пиарятся.

Политика – это борьба за власть. Политика – это борьба идей. Политика – это способность действовать.

Но назовите какую-нибудь принципиальную идею, акцию, кампанию, инициативу ЛДПБ. Не назовете.

Про партию можно вспомнить лишь то, что ее лидер Сергей Гайдукевич выступал спарринг-партнером Лукашенко на выборах. Что-то говорил в телевизоре. Всё!

Но занятие оказалось настолько перспективным, что, оставив пост начальника Фрунзенского РУВД Минска, по стопам отца пошел сын, Олег Гайдукевич. Стал даже активнее папы. Закупал километры «георгиевских ленточек», чтобы раздавать на улицах Минска. Когда ветер подул в другую сторону, объявил, что пришло время легализовать национальную символику – бело-красно-белый флаг и герб «Погоня». Поторопился, одернули, через пару дней отрекся от своих слов… Если политика – это борьба идей, то в данном случае она происходит в одной голове.

Накануне съезда, который объявил, что будет выдвигать Олега Гайдукевича кандидатом в президенты, он опубликовал на своей странице в соцсетях дружеское фото с Дмитрием Павличенко – тем самым, который с особым рвением разгонял акции протеста, подозревается в причастности к похищению оппозиционных политиков, на дубинках которого действующий режим укреплялся и наглел. И ничего удивительного! Ведь как ни маскируйся под либерала, демократа и оппозиционера, но когда речь заходит о белорусских выборах, то обязательно подумаешь о Павличенко и его последователях.

Случайность, сигнал, метка, оговорка по Фрейду?.. Неважно. На месте Лукашенко я бы все равно Гайдукевича кандидатом не зарегистрировала. Это несолидно, несерьезно, стыдно. У нас ведь как президентские выборы – так Лукашенко–Гайдукевич себя выгуливают. «Сладкая парочка». Шерочка с Машерочкой.

Люди уже смеяться будут.

**ОТ РЕДАКЦИИ**

*Если кто подзабыл, напомним, что в президентских кампаниях 2001, 2006, 2010 и 2015 годов участвовал Сергей Гайдукевич, отец Олега. В 2001 году за него проголосовало 2,48% избирателей, в 2006-м – 3,5%, в 2015-м – 3,3%. В 2010 году Гайдукевич-старший объявил, что собрал 100 тысяч подписей (во что невозможно было поверить), необходимых для регистрации его кандидатом в президенты, но затем снялся с выборов, назвав их «спектаклем, итоги которого уже давно всем известны».*

ЖНІВО-2017




## Вось-вось будзе 6 мільёнаў тон!

Што і казаць, у апошнія дні надвор'е спрыяе беларускім аграрыям. Тэмпы жніва высокія. Радуе і ўраджай! Калі ў мінулым годзе ў сярэднім з гектара намалочвалі 34,4 цэнтнера збожжа, то сёлета – 36 цэнтнераў. А ў Гродзенскай вобласці, напрыклад, на круг выходзіць аж 44,3 цэнтнера. У Мінскай – 38,1, у Брэсцкай – 37 цэнтнераў.

На ўчарашні дзень каласавыя былі ўбраны ў краіне з плошчы, якая складае крыху больш за 64 працэнты ад пасяўной. Вось-вось будзе намалочана 6 мільёнаў тон залацістага зерня!

**Ягор КУПРЭВІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА



## Генадзю Фядынічу прад'яўлена абвінавачанне

Падобна на тое, што крымінальная справа, узбуджаная супраць кіраўніцтва незалежнага прафсаюза РЭП, не згортваецца, а раскручваецца далей. Стала вядома, што Генадзю Фядынічу прад'яўлена абвінавачанне і з яго ўзята падпіска аб нявыездзе. За кратамі ўтрымліваецца бухгалтар прафсаюза Ігар Комлік. Можа здарыцца, што абодвух прыцягнуць да адказнасці за ўхіленне ад падаткаў у асабліва буйным памеры.

**Зоя КУСЯНКОВА.**

СКАЗАНА!



Наталля КАЧАНАВА,
кіраўнік
Адміністрацыі прэзідэнта:

## Сярэдняя зарплата ў Мінску павінна дасягнуць да канца года 700 долараў

Перад кіраўніцтвам Мінска пастаўлена задача: у снежні сярэдняя зарплата павінна дасягнуць 1385 рублёў (каля 700 долараў па цяперашнім курсе). Пра гэта заявіла кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава 14 жніўня на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме.

Паводле яе слоў, *«трэба не толькі выйсці ў снежні на гэты параметр, але і ўтрымаць яго». «Пастаўлена задача да 1 кастрычніка прыняць абноўлены дэкрэт №3. Акцэнт пераносіцца на мясцовыя органы ўлады. Вы павінны адсачыць кожнага чалавека, скласці выверaныя спісы – прапаноўвайце людзям працу, дапамагайце ім з працаўладкаваннем»*, – цытуе Качанаву дзяржаўнае агенцтва БЕЛТА.

Паводле звестак Белстата, у чэрвені сярэдняя намінальная налічаная зарплата па краіне склала 819,3 рубля. Сярод рэгіёнаў найбольшая сярэднямесячная налічаная зарплата ў чэрвені традыцыйна была зафіксавана ў Мінску – 1089 рублёў (каля 560 долараў па цяперашнім курсе).

БелаПАН.

***«Народная Воля»* в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya в Facebook www.facebook.com/nv.online.info в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo**

БЛІЦ

*У папярэдніх двух нумарах "Народнай Волі" мы апыталі шэраг кіраўнікоў устаноў, ведамстваў адукацыі і дэмактывістаў наконт агітацыйнай работы сярод бацькоў, з тым каб яны аддавалі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Вынова адна: ніхто з іх не займаецца актыўнай працай у гэтым накірунку; больш дэмагагічных разважанняў, чым канкрэтных дзеянняў. А таму вострая праблема не вырашаецца – ёсць падставы лічыць, што ў новым навучальным годзе, як і ў мінулым, у школах, гімназіях, ліцэях пераважна будзе гучаць не родная, беларуская, мова, а руская.*
*Каб усебакова высвеціць галоўныя прычыны такой здрадніцкай для нацыі сітуацыі, "Народная Воля" вырашыла звярнуцца непасрэдна да бацькоў з наступным пытаннем:*

## Чаму вашы дзеці ў будучым навучальным годзе не будуць вучыцца ў беларускамоўных класах?

**Уладзімір КРЫШТАЛЬ, прадпрымальнік (Мінск):**

– У мяне двое дзяцей. Адзін сын пасля арміі, а другі пойдзе ў шосты клас. Як ні прыкра, але працягваць вучобу будзе на рускай мове. Чаму? А таму, што ў нашай школе, якая побач з домам, наогул няма беларускамоўных класаў. Вазіць яго за некалькі кіламетраў, скажам, у гімназію з беларускамоўным навучаннем, на жаль, ні ў мяне, ні ў жонкі няма магчымасцяў. А ў прынцыпе мы за тое, каб дзеці атрымлівалі веды і выхоўваліся ў беларускамоўным асяродку. І тое, што ў школе, лічы, усе прадметы выкладаюцца на мове чужой дзяржавы, – гэта ганьба ўсёй нашай адукацыйнай сістэме.

**Кацярына БАРЫСОВІЧ, валанцёрка (Лепель):**

– Маё дзіця не будзе вучыцца ў беларускамоўнай школе таму, што, на мой погляд, у нашым грамадстве, якое практычна цалкам русіфікавана, беларускамоўныя – гэта, на жаль, белыя вароны. Хочацца зберагчы і псіхіку дзіцяці, і свае нервы, а не тузацца кожны раз з-за касых поглядаў абывацеляў. Хоць калі б беларускамоўныя школы мелі вялікае распаўсюджванне (гэта значыць калі б усё ў гэтым плане не толькі ад бацькоў залежала, але і была настойлівасць на дзяржаўным узроўні), то я над гэтым пытаннем сур'ёзна падумала б.

У цэлым я лічу, што навучанне на роднай мове (без яўнага ўціску рускай) было б больш натуральным для беларусаў. Тэарэтычна ў нас вучыць дзяцей на беларускай мове магчыма (дастаткова звярнуцца з адпаведнай заявай у аддзел адукацыі), але зноў жа ў вачах іншых людзей гэта азначае ісці супраць сістэмы, асабіста я да гэтага не гатова.

**Таццяна ГУРКОВА, хатняя гаспадыня (Мінск):**

– (*Катэгарычна.*) Я свою дочь отдаю в российскую школу.

**– Здаецца, у Беларусі няма расійскіх школ. У нас беларускія школы, але амаль усе з рускамоўным навучаннем…**

– Я сказала… *(Далей – маўчанне.)*

**– А чаму вы ўсё ж такі аддаяце дачку ў першы клас з рускамоўным навучаннем?**

– Я так решила… (*Кінула тэлефонную трубку.*)

**Таццяна ЛОЙША, настаўніца (Гродна):**

– Я прытрымліваюся той думкі, што дзеці павінны хадзіць у самую бліжэйшую школу ад хаты, а не ездзіць на іншы канец горада. Сёння ў Гродне толькі некалькі школ з беларускамоўнымі класамі. Тая школа, якую мы выбралі, не мае такіх класаў.

Абвінавачваць бацькоў у тым, што яны не выбіраюць беларускамоўны клас для свайго дзіцяці, ніхто не мае права, бо на сённяшні дзень у нашай краіне дзве мовы раўнапраўныя. Выбар ёсць. Канешне, перавага за рускай мовай. На гэта існуе некалькі прычын.

Большасць сем'яў размаўляюць на рускай мове, таму дапамагчы дзіцяці ў будучым па-беларуску бацькі не заўсёды змогуць.

На жаль, ужо з самага пачатку бацькі не бачаць перспектывы ў вывучэнні ўсіх прадметаў па-беларуску. ЦТ і паступленне – на рускай мове.

З цягам часу ў беларускамоўных дзяцей узнікне праблема ўзаемапаразумення са сваімі аднагодкамі, сябрамі, знаёмымі.

Навязаць беларускую мову ніхто не ў стане, яе трэба проста палюбіць!

**Сяргей ІЛІНСКІ, рабочы (Наваполацк):**

– Не хачу ўскладняць вучобу, бо вывучаць дакладныя навукі дзіцяці, якое ў паўсядзённым жыцці чуе рускую мову, будзе складана. Гэта адаб'ецца на яго паспяховасці. У далейшым жыцці беларуская мова яму наўрад ці спатрэбіцца, бо ўся сістэма вышэйшай адукацыі ў нашай краіне на рускай мове. Пры паступленні ў іншых краінах прыярытэт аддаецца англійскай (рускай). Калі сын вырасце, то сам вызначыцца, патрэбна яму беларуская мова ці не. Але ў любым выпадку: размаўляе ці не размаўляе чалавек па-беларуску, а ведаць мову павінен.

**Алег ЮРЧЫК, пастух (СВК "Васілевічы" Слонімскага раёна):**

– У нас у школе няма такога класа для першакласнікаў. А вазіць дзіця кудысьці ў горад, мне, пастуху, ці жонцы, даярцы, проста немагчыма.

### Ад рэдакцыі

Можна было б працягнуць бліц-апытанне. Але і так усё зразумела: у гаротным стане знаходзіцца родная, беларуская, мова ў школах, гімназіях, ліцэях. Падрастаючае пакаленне русіфікуецца з маленства. Крыўдна, што ўсе – і ўлады, і дэмакратычныя актывісты, і бацькі – гэта добра разумеюць, але па сутнасці рашучых захадаў ніхто не робіць. Вядома ж, дзяржава павінна ў першую чаргу паклапаціцца, каб руская мова, мова чужой дзяржавы, не выцясняла з усіх сфер нашу, беларускую. Зацікаўленасць бацькоў у тым, каб іх дзеці вучыліся ў беларускамоўных класах, заўважна ўзрасце, як толькі яны даведаюцца, што роднае слова актыўна прабівае дарогу ў вышэйшых навучальных установах. Вось чаму краіне востра неабходны Беларускі нацыянальны ўніверсітэт. Падчас "Вялікай размовы з прэзідэнтам" Аляксандр Лукашэнка не адпрэчыў гэтую актуальную ідэю, але і нейкіх канкрэтных крокаў пакуль не зроблена.

Можна толькі паспачуваць тым бацькам, якія ахвотна аддалі б дзяцей у беларускамоўныя класы, але ў школах, што побач з іх дамамі, такіх няма. Тут крытычныя стрэлы павінны ляцець у бок чыноўнікаў ад адукацыі, кіраўнікоў мясцовых улад. Пажадана, каб большую актыўнасць праяўлялі і самі бацькі. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Мала часу застаецца да новага навучальнага года. І з кожным днём моўнае пытанне становіцца больш вострым. Сённяшнія школьнікі заўтра будуць вызначаць лёс Беларусі. І захавае яна сваю самаідэнтычнасць ці не – над вырашэннем гэтай нацыянальнай праблемы трэба думаць ужо цяпер. Усім, хто жыве на гэтай зямлі.

ЗАПРАШЭННЕ

# Усе – на ўкраінскае свята!

**20 жніўня 2017 года** ў Мінску на тэрыторыі Верхняга горада адбудзецца Свята ўкраінскай культуры, прысвечанае 26-й гадавіне Незалежнасці Украіны.

**Арганізатары** – Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, Беларускае грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў "Ватра".

**Рэжысёр-пастаноўшчык і вядучы** – Глеб Кудрашоў (Украіна).

**У святочным мерапрыемстве возьмуць удзел** творчыя калектывы ўкраінскіх грамадскіх арганізацый Беларусі, а таксама выканаўцы з Украіны: тытульны калектыў Палтаўскай абласной філармоніі, лаўрэат міжнародных конкурсаў ансамбль "Чураіўна" і яго вядучыя салісты – народная артыстка Украіны Наталля Хамецка, а таксама Лідзія Крэтава і Аляксандр Дубавы. Непаўторным каларытам народнай і аўтарскай песні парадуе гасцей заслужаная артыстка Украіны Яраслава Рудэнка.

Вячэрняя праграма будзе складзена з твораў залатога фонду ўкраінскай эстрады ў выкананні ансамбля "Чураіўна".

Арганізатары свята прапануюць гасцям тэматычную віктарыну, арыгінальныя прызы, нацыянальныя сувеніры і кнігі. Непаўторную атмасферу свята створаць таксама выстава вышыўкі і традыцыйных рамёстваў, кірмаш майстроў народнай творчасці, а таксама стравы ўкраінскай кухні.

Пачнецца свята ў 13.00 і закончыцца позна вечарам. Тэлефон для даведак: **+375-17-283-19-89.**

***(З прэс-рэліза Пасольства Украіны ў Беларусі.)***

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Эдуард Занкавец адпачывае…



Апошнім часам былы галоўны трэнер зборнай Беларусі па хакеі Эдуард Занкавец працаваў скаўтам амерыканскага хакейнага клуба "Чыкага Блэкхокс", затым узначаліў хакейны клуб "Барыс" з Астаны і зборную Казахстана. Але вясной гэтага года беларускі спецыяліст нечакана заявіў, што пакідае абедзве пасады, кантракт працягваць не будзе.

Тым часам пад кіраўніцтвам Занкаўца "Барыс" паказаў цудоўны вынік – выйшаў у плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі і нават прайшоў у першым раўндзе чалябінскі "Трактар".

*"Пакуль я адпачываю ад хакея,* – распавёў Эдуард Канстанцінавіч "Народнай Волі". – *З'ездзілі не так даўно з сям'ёй у Італію, зараз займаюся падрыхтоўкай дачкі да школы. Яна пойдзе ў першы клас, і гэта даволі адказны этап у жыцці чалавека. Таму я, як бацька, вырашыў, што трэба ў такі момант знаходзіцца побач з сям'ёй. Нейкія прапановы ад хакейных клубаў, безумоўна, былі, але я іх разглядаю на перспектыву. Пакуль – у творчым пошуку".*

**Алесь СІВЫ.**

# Усадьба

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Растет аппетит у бабочки

***Откуда появляются гусеницы на капусте? Их так много, что не знаю, как мне быть: то ли собирать вручную, то ли какую химию к ним применить.***

**Вячеслав КОРБУТ.** *Ельский район.*

Большой вред капусте причиняет капустная белянка. Она откладывает яйца на нижней стороне капустных листьев, и вскоре вся нижняя сторона покрывается целой колонией сначала мелких, но очень быстро растущих гусениц. Соответственно растет и их аппетит. Одна бабочка может отложить до 250 яиц. Гусеницы капустной белянки желто-зеленые с темно-бурыми точками и пятнами, длиной до 40 мм, гусеницы репной белянки бархатисто-зеленые с узкими желтыми полосками вдоль спины и по бокам, покрыты короткими волосками, длина до 25 миллиметров. Гусеницы объедают мякоть листьев, оставляя одни жилки, а гусеница репной белянки может даже продырявить кочан, как совка. За сезон белянки дают два поколения гусениц, второе поколение появляется в начале августа и может нанести большой вред кочанам капусты.



Самый эффективный способ борьбы с гусеницами белянок – ручной сбор. Через неделю после того, как вы заметили первых бабочек в вашем огороде, начинайте осматривать листья капусты с нижней стороны. Кладки яиц хорошо видны, и их легко уничтожить. Молодых гусениц также легко собирать, так как они кормятся на верхней стороне листа около средней жилки. Но если вы опоздали, то дело осложняется, так как гусеницы спускаются к основанию листьев и кормятся внутри кочана.

Для уничтожения листогрызущих гусениц можно использовать и готовые бактериальные препараты, и травяные настои. На капустных гусениц особенно сильно действует настой из горькой полыни. Хороший результат дает также опыливание кочанов смесью табачной пыли и золы (1:1).

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Готовьте хранилище за месяц до загрузки

За 3–4 недели до загрузки плодов помещение дезинфицируют (опрыскивают формалином – 1 л 40-процентного раствора на 40 л воды, с соблюдением всех мер предосторожности), белят 10–20-процентным раствором извести и 2-процентным раствором медного купороса. Эта смесь нестойкая, и готовят ее непосредственно перед работой.

Всю обработку проводят при температуре не ниже 16–18 градусов тепла и при относительной влажности воздуха в помещении 95–97 процентов – для большего воздействия формалина. Закончив дело, помещение плотно закрывают на 1–2 дня – во избежание утечки газа. Потом проветривают и просушивают до полного исчезновения запаха.

Деревянные части и пол надо хорошо обработать зеленым мылом или 4-процентным раствором железного купороса.

Не меньшее значение имеет и подбор сортов на хранение. Осенние яблоки – антоновку обыкновенную, анис полосатый, бессемянку мичуринскую, Бордовое, Боровинку, Жигулевское, Зорьку, Кальвиль анисовый, Коричное полосатое, Мезенское, Осеннее полосатое, Орловскую гирлянду, Орловское полосатое и другие – невозможно сберечь более 2–2,5 месяца без искусственного охлаждения. В тех же условиях сорта раннезимнего срока созревания пролежат и 3, и 5 месяцев. Это Коричное новое, Мекинтош, Оранжевое, Орлик, Память Мичурина, Пепин шафранный, Первенец, Победа, Россошанское полосатое, Славянка, Слоненок, Уэлси и другие.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Четыре степени зрелости

***В специальной литературе по садоводству читала о каких-то степенях зрелости плодов – технической, потребительской и других. Но нигде не нашла объяснений, что это значит. Если можно, поясните, пожалуйста.***

**Виктория БАХИРЕВА.** *Гомель.*

Существуют четыре степени зрелости плодов и овощей: потребительская, техническая, съемная, физиологическая.

Плоды и овощи в **потребительской** зрелости имеют свойственные данному сорту внешний вид, окраску, вкус и аромат. В этой степени они наиболее полноценны в пищевом отношении, обладают наилучшей консистенцией. В потребительской зрелости снимают ягоды, косточковые плоды, яблоки и груши летних сортов, предназначенные для немедленного употребления в пищу, а также убирают основные виды овощей.

В **технической** зрелости убирают плоды и овощи, способные дозревать в пути при дальних перевозках или при хранении, а также плоды и ягоды, предназначенные для переработки, так как они при этом не развариваются. Их убирают недозрелыми за несколько дней до наступления потребительской зрелости.

В **съемной** зрелости убирают семечковые плоды осенних и зимних сортов и цитрусовые. Потребительская зрелость у плодов осенних сортов наступает через 2–3 недели после съема, у зимних сортов – через 1–2 месяца.

**Физиологическая** зрелость плодов и плодовых овощей наступает в то время, когда их мякоть становится дряблой, а у яблок – мучнистой и невкусной. В этой зрелости снимают продукцию, предназначенную для семенных целей.

Картофель и некоторые овощи к концу вегетации также достигают физиологической зрелости. У них при уборке совпадают потребительская зрелость и физиологическая.

Степень зрелости плодов и овощей определяют по различным признакам: окраске (плоды, ягоды, томаты), плотности кочана (капуста), вкус и другое.



РАСТЕНИЯ ЛЕЧАТ

## Сельдерей



Сельдерей, как и другие пряные растения, получил признание много веков назад. По преданию, в Древней Греции почетными венками из сельдерея награждали победителей спортивных соревнований. Фигурировал сельдерей в рецептах эротических блюд.

Выращивают его ради пряной зелени и корнеплодов. В зелени найдены витамины А, С, группы В, РР, соли калия, кальция, фосфора.

Весной многие страдают от недомогания, слабости, головной боли. Причиной считают то перемену погоды, то магнитные бури, однако главное – нехватка витаминов. И те, кто осенью, засаливая огурцы и помидоры, клали в банки сельдерей, а зимой добавляли его в пищу, весеннее недомогание ощущают меньше. Так что, открыв банку с огурцами, сельдерей не выбрасывайте, кладите его в салаты, гарниры. Даже засаливая капусту, можно положить в нее немного сельдерея.

У пожилых людей сельдерей нормализует водно-солевой обмен, особенно при подагре, ревматизме, ожирении. Хорошо сказывается он и на деятельности сердечно-сосудистой системы, налаживает сон. Корень сельдерея помогает при болезнях почек и мочевого пузыря, незапущенных простатитах. Для лечения применяют настои. С вечера в 1 л горячей воды кладут 2 ст. ложки измельченного корнеплода, а утром приятно пахнущий напиток можно пить. Процеженный настой принимают по полстакана 3–4 раза в день. Улучшает сельдерей и половую деятельность. Отвары из корня исцеляют воспаленную кожу, для чего делают примочки из отвара.

Для зимнего хранения растения в октябре выкапывают с комком земли, переносят в подвал с вентиляцией и прикапывают во влажном песке. Свежие листья не портятся 5–6 недель в полиэтиленовых пакетах при температуре, близкой к нулю.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Козы любят чай

В период выпаса коз поить несложно – подойдет свежая и чистая проточная вода или из колодца. Вот и все. Зимой же козочка не захочет пить холодную воду, да и не должна. Воду можно давать чуть подогретую, а то и чаек заварить. Конечно, самовар в козлятник тащить необязательно, а вот приготовить травяной отвар нужно.

Летом, когда заготавливаете себе лекарственные травы, подумайте и о козочках. Для витаминного чая годятся зверобой, крапива, тысячелистник, мята, ромашка и другие. Нужно насушить в достаточном количестве листьев малины, смородины, земляники, вишни, а также ягод рябины, боярышника, калины. По свидетельству бывалых козоводов, чем разнообразнее заварка, тем охотнее козы чаевничают. Такой чай защищает их от авитаминоза, способствует увеличению надоев, да и молоко будет отменного качества.

Взрослая коза живой массой 50–60 кг за сутки выпивает 8–10 л чая. Можно вместо чая или воды раз в сутки предложить теплое пойло (обязательно подсоленное), приготовленное с добавлением отрубей или запаренного комбикорма.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

ШАШКІ

# Дняпроўскі дэбютант

Спецыяльна для "Народнай Волі" даслаў свае новыя пазіцыі ў рускія шашкі ўкраінскі майстар спорту па шашках **Анатоль Панчанка** з Днепрапятроўска. Вітаем дэбютанта нашай рубрыкі!



№1 **Белыя**: b6, c7, d2, g5 (4).

**Чорныя**: a5, d4, e7, f2, h4, h6 (6).

b8(c7 **AB**), e1(f4), e3(f2/d2), f8/d8 x. **A**(f4), e1, e3, b8 x. **B**(f6), e3, e1, g3 x.

№2 **Белыя**: дамка c7, шашкі d6, g7 (3).

**Чорныя**: шашкі a7, b4, e3, g5 (5).

a5(a3), f8(b2**AB**), b6, h6 x. **A**(f2), b4, g1(f4), f2 x. **B**(h4), b4, f2 x.

## Незвычайнае заданне

Наступныя эцюды-64 прапанаваў наш пастаянны чытач **Леанід Рыбакоў** (Мінск). Эцюд №3 мае незвычайнае заданне – "выйгрыш белых пры першым ходзе чорных". Такое практыкуецца пры складанні шашачных кампазіцый.

№3 **Белыя**: дамкі a3, c7, шашка g7 (3).

**Чорныя**: дамка c1, шашка d4 (2).

(c3), gf8(h6), a5(hd2), g7(h6), d2(f8**A**), h6 x. **A**(c1), h6 x.

№4 **Белыя**: дамкі a5, d8, шашка e7 (3).

**Чорныя**: дамка e1, шашка f4 (2).

dc7(e3), ed8(e3-d2**A**), g3, e1 x. **A**(e3-f2), b4, b6, g1 x.

№5 **Белыя**: дамкі d8, e7, шашка h6 (3).

**Чорныя**: дамка f2, шашка d4 (2).

h4(e1), g7(e3), h8(e3-d2**A**), g3, hf6, c1 x. **A**(e3-f2), c3(a5), e1 x.

## Цікавае ў суседзяў

Другі наш пастаянны чытач – грасмайстар шашачнай гульні з Гомеля **Яўген Кандрачэнка** паведаміў пра турнір **"Коломенские зарницы"** на прызы прэзідэнта Федэрацыі шашак Расіі, які праходзіў 5–6 ліпеня гэтага года. На гэтых спаборніцтвах выступіла шмат моцных шашыстаў – вопытных і маладых.

Знаёмім нашых чытачоў з фрагментам партыі неаднаразовага чэмпіёна свету **С.Белашэева**.

**С.Белашэеў–Д.Абарынаў**



**1.gf4! eg5 2.cd4 gf4 3.dc5 fe3 4.cb6 ed2** (Не выйграе 4…de5 5.bd8 ef2 6.ge3 ed6 7.dg5 hd2 8.bc5 x) **5.bd8 dc1 6.dc7! fe5 7.bc5 db4 8.cf4! cg5 9.hd8 x.**

Дарэчы, Яўген Кандрачэнка мае сайт, дзе ён размяшчае матэрыялы па шашачнай гульні. Там можна знайсці шмат пазіцый практычнага зместу. Зайдзіце на сайт

***http://64-100.com/blog/Evgeniy-Kondrachenko***.

Для самастойнага рашэння прапануем кампазіцыі **Аляксандра Перавознікава** (Рагачоў) з заданнем "белыя пачынаюць і выйграюць".

№6 **Белыя**: b2, b6, f2, f6, g5 (5).

**Чорныя**: a7, c3, c5, d4, d6, h8 (6).

№7 **Белыя**: b4, c5, d4, e5, f6, g5, g7, h6 (8).

**Чорныя**: a7, b2, d2, e3, f2, h4 (6).

№8 **Белыя**: a5, c5, d4, e3, e5, f4, g1 (7).

**Чорныя**: b2, c3, c7, e7, f2, g3, g7, h2 (8).

№9 **Белыя**: b4, b6, c5, d6, f4, h4 (6).

**Чорныя**: c3, d2, e3, f2, f6, g5, g7, h6 (8).

№10 **Белыя**: b6, c7, d6, e1, e7, f2 (6).

**Чорныя**: a3, a5, b2, c3, d4, e3, g5 (7).

## Кампазіцыі ў міжнародныя шашкі

Сваю новую задачу прапануе актыўны ўдзельнік нашай рубрыкі з Івянца **Аляксандр Шурпін**.

№11 **Белыя**: 18, 20, 24, 34, дамкі 7, 27, 29, 33, 36, 39 (10).

**Чорныя**: 13, 14, 17, 22, 31, дамкі 9, 25 (6).

Белыя пачынаюць і пазбаўляюць ходаў шашку чорных. 39-43(28**A**), 29-34, 7-12, 30, 19, 22 (13). **A**(48), 34, 49, 18:27, 18, 12, 28.... (45).

## Супаставім рашэнні

"Народная Вволя" ад 30 мая 2017 года. Бліц-конкурс **Аляксандра Перавознікава.**

**№6** – f6, c3, g3, b8(c3), f4, h8(g5), e5 x.

**№7** – ab6, e5, a5, g3, f4, d8 x.

**№8** – d8, a1, c7, g3, g3, e5 x.

**№9** – b8, f4, g3, b2, f8, b4(e3), e1 x.

**№10** – g7, d8, b8, g3, f2 x.

**№11** – b4, f8, g5, b8 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі, Эдуард Дамброўскі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублеўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Уладзімір Сергіеня** (в.Войкава Уздзенскага раёна), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Аляксандр Голуб** (п.Талька Пухавіцкага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Віншуем пераможцу – **Уладзіміра Панько**!

Аб'яўляецца чарговы адкрыты чэмпіянат Мінска па завочнай гульні ў рускія шашкі. Заяўкі на ўдзел накіроўваюцца сакратару чэмпіянату **Уладзіміру Бандарыку**. Тэлефон сакратара для даведак **(8017) 501-50-34**.

Свае лісты дасылайце на адрас:

**220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"**

або на электронны адрас рэдакцыі:

**saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

СЛЫШАЛИ?

# «Барселона» за 40 миллионов евро купила футболиста, который не подошел гродненскому «Неману»

В 2007 году в «Неман» на просмотр приехал бразильский полузащитник литовского «Вильнюса». Парень не впечатлил главного тренера белорусской команды и уехал. Когда спустя несколько лет игрок попал в сборную Бразилии и перешел в английский «Тоттенхэм», в Гродно сильно удивились.

Сегодня же он перешел в «Барселону». Каталонцы потратили на трансфер бразильца 40 миллионов евро.

Парня зовут **Жозе Пауло Безерра Масиэл Жуниор**, или просто Паулиньо. Сегодня «Барселона» подтвердила его трансфер из китайского клуба «Гуанчжоу Эвергранд».

Сумма сделки составит 40 млн евро. Отступные в контракте 29-летнего бразильского хавбека с каталонцами – 120 миллионов.

Паулиньо «выбился в люди» через четвертый дивизион Бразилии. В его послужном списке были «Брагантино» и «Коринтианс», после которого несостоявшийся игрок «Немана» получил приглашение от английского «Тоттенхэма». В Лондоне получилось не очень, и игрок на три года уехал в Китай, из которого в Европу его возвратила «Барселона».



**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 14.08.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 103 экз. Заказ № 2896.